**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

**АКІЯН — НЕ ПЕРАШКОДА. «ЛІТАРАТУРНЫ ЭКСПРЭС-2000»**

Стар. 6.



**ПУШКІНІЯНА**

**СВЯТА ПАЭЗІІ Ў ЦЯЛУШЫ**

Стар. 8.



**ПАЭТКІ 20-х**

**Тры замужжы Наталлі ВІШНЕЎСКАЙ**

Стар. 5.



**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

10 –17 чэрвеня 1999 года
Цана 17 000 рублёў

№№ 23—24

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

## ТРАГЕДЫЯ НА НЯМІЗЕ

**30 мая 1999 года ў Мінску ў выніку стыхійна ўзнікшых абставін у раёне Палаца спорту і станцыі метро "Няміга" адбылася масавая цісканіна прысутных і прахожых, у выніку чаго загінула 52 чалавекі, траўміравана больш за 100.**

**Аксана ПАЛАЧАНІНА,**
**выкладчык ПТВ-117.**

*Прысвячаецца*
*Волечцы ПЯКАРСКАЙ*

**30 траўня**

**Музыка, смех, сонца і хмары.**
**Моладзь гуляе, танцуе, спявае.**
**А навальніца зусім ужо блізка,**
**Хутка пакіне свой след бліскавіца.**

**Ім, маладым, невядома, што скора**
**Хмараю чорнай насунецца гора.**
**Боль невыносны спасцігне людзей:**
**Маці і бацькаў, і нават дзяцей.**

**Жах, сум, жалоба. І зноў, Беларусь,**
**Ў сэрца твае быццам джала**
**ўваткнуць.**
**Больш за паўсотні юнацкіх вачэй**
**Смерць загасіла. Ці будзе лягчэй!**

**Не, гэты боль не суціхне ніколі!**
**Зноў ты спазнала горыч нядолі.**
**Быццам не досыць табе гараваць,**
**Быццам не хочаш смяяцца, спяваць!!**

**Божа, за што ты на нас насылаеш**
**Гэтыя жахі, пакуты, скажы!!**
**Кветкі і свечкі, слёзы і стогны —**
**Крык набалелай народнай душы.**

*31 траўня 1999.*

**2 стар.**



**Фота БелТА.**

**НА ЗМЕНУ "РАСКІДВАННЮ КАМЯНЁЎ" НЕПАЗБЕЖНА ПАВІНЕН ПРЫЙСЦІ ЧАС "ЗБІРАННЯ КАМЯНЁЎ". ПРЫ ЎСІХ СТРАТАХ АПОШНІХ ГАДОЎ БЕЛАРУСЬ ПА-РАНЕЙШАМУ МАЕ МОЦНЫ КУЛЬТУРНІЦКІ ПАТЭНЦЫЯЛ. МОЖА НАВАТ І НЕ ВАРТА НАЗЫВАЦЬ АД'ЕЗД ЗА МЯЖУ БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА "СТРАТАЮ". КАЛІ СА СТУДНІ НЕ БРАЦЬ ВАДУ, ЯНА ЗАРАСТАЕ.**

3 стар.

### АНОНС

Да выхаду ў свет рыхтуецца кніга Арсена Ваніцкага "Адценні жыцця". З наступнага нумара мы пачнём друкаваць урыўкі з раздзела, які мае назву "У імя будучыні" і ў якім ідзе аповед аб шматлікіх сяброўскіх стасунках Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, якое шмат гадоў узначальвае аўтар.

А сёння кнігу прадстаўляе паэтэса Раіса БАРАВІКОВА.



***Варшаўскія сустрэчы. Арсен ВАНІЦКІ (справа), Стэфан НАЎРОТ, старшыня таварыства "Польшча — Усход", Леанід ЛОЙКА, старшыня таварыства "Беларусь — Польшча".***

### НАПЯРЭДАДНІ

Нацыянальная авіякампанія "Белавія" 19 чэрвеня гэтага года пачне рэгулярныя палёты ў Грэцыю па маршруту "Мінск — Афіны — Мінск".

Палёты ў Афіны плануецца ажыццяўляць на самалёце ТУ-134 адзін раз на тыдзень па суботах. Прадстаўнік авіякампаніі выказаў меркаванне, што пасажырамі гэтага рэйса будуць у асноўным турысты, бізнесмены і людзі, якія едуць у Грэцыю па пакупкі.

Авіякампанія "Белавія" выконвае рэгулярныя палёты ў Расію, Аўстрыю, Вялікабрытанію, Германію, Ізраіль, Ірландыю, Італію, на Кіпр, у Кітай, Турцыю, Узбекістан, Чэхію, Украіну, Арменію. Нацыянальная авіякампанія забяспечвае таксама стыкоўкі для палётаў у Еўропу і Амерыку з расійскіх гарадоў (Валгаграда, Екацярынбурга, Самары, Чэлябінска), сумесна з ірландскай авіякампаніяй "Эйр Лінгус" ажыццяўляе перавозкі пасажыраў у Амерыку, сумесна з узбекскай авіякампаніяй "Узбекістон хавойулары" — у Індыю (Дэлі). Партнёрамі НАК "Белавія" ў міжнародных авіяперавозках з'яўляюцца авіякампаніі "Аэрафлот", "Трансаэра", "Эйр Лінгус", "ЛОТ", "Люфтганза", "Аўстрыйскія авіялініі". Асноўныя пасажырскія і чартэрныя міжнародныя палёты "Белавія" ажыццяўляе з нацыянальнага аэрапорта "Мінск-2".

Сёння парк паветраных суднаў "Белавія" складаюць самалёты ТУ-154, ТУ-134, АН-24, ЯК-40. Авіякампанія разглядае прапановы аб набыцці ў пізінг самалётаў вытворчасці амерыканскай кампаніі "Boeing" ці еўрапейскага канцэрна "Airbus Industrie".

### АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Дарагая рэдакцыя!

Я ваш сталы чытач з 1971 года. "Голас Радзімы" — адзіная газета, якая яднае нас, беларусаў свету, са сваёй маці-радзімай, якая нагадвае нам, адкуль ідуць нашы карані. Прачытаеш газету на сваёй роднай беларускай мове — і на душы становіцца вясёлей: нібы пабываў на Бацькаўшчыне, у роднай Беларусі.

Зараз на Украіне пачалася падпіска на газеты і часопісы на другое паўгоддзе. Нарэшце з'явілася магчымасць падпісацца на беларускі друк. Праўда, у каталогу сярод 10 беларускіх газет і 8 часопісаў няма чамусьці ЛіМа ("Літаратуры і мастацтва"), для мяне гэта немалаважна. Але справа вось у чым. Чаму так сталася, што, каб падпісацца на Украіне на беларускую газету, патрэбна заплаціць у 10 (дзесяць!) і больш разоў, чым за ўкраінскую газету такога памеру. Магчыма, тут якаясь недарэчнасць? Напрыклад, за "ГР" тут у месяц патрэбна заплаціць 11 грывень 47 капеек. За такую ж газету ўкраінскую, якая выходзіць 1 раз на тыдзень, — ад 1-й да 2-х грывень у месяц. Або на газету "Звязда" падпісацца на месяц — 47,43 грыўні, за паўгода 284,58 грыўні. Такога ж фармату газета "Донбасс", якая выходзіць 5 разоў на тыдзень, 2,50 грыўні ў месяц, за паўгода 15 грывень. Хіба гэта магчыма такая раскоша, калі ў мяне пенсія 60 грывень, а шмат хто і менш атрымлівае? Добра, што пенсіянерам на ўкраінскія газеты некаторыя рэдакцыі робяць скідку 10 працэнтаў. Будзем спадзявацца, што такая неразбярыха часовая.

Прыемна, што "Голас Радзімы" атрымліваюць у 48 краінах свету, няхай наша беларуская мова будзе роўнага сярод роўных у свеце. Я аптыміст і заўсёды веру ў лепшае. Зычу ўсім суайчыннікам усяго самага найлепшага.

З павагаю да вас

**Фёдар СЕВЯРЫН.**

Украіна, Данецк.

6 стар.

# ДЗЕСЯЦЬ МІНУТ, ЯКІЯ ЎЗРУШЫЛІ КРАІНУ







Ужо некалькі гадоў праспект Машэрава выкарыстоўваецца як адкрытая канцэртная пляцоўка. Трыццатага мая чарговае свята скончылася жудаснай трагедыяй. У тую нядзелю каля Палаца спорту сабралася больш дзвюх з паловай тысяч мінчан: павінен быў адбыцца канцэрт групы "Манга-Манга". Многія ішлі менавіта на гэты канцэрт, але ў ход падзей умяшалася надвор'е. "Манга" паспела праспяваць толькі дзве песні. У 20.40 на цэнтр Мінска абрынуўся лівень з градам і навальніцай.

Усё развівалася імкліва. Натоўп людзей хлынуў да бліжэйшага укрыцця — у метро. Пачалася цісканіна. Нарады міліцыі, якія спрабавалі стрымаць людзей і ўпарадкаваць рух, былі змяты.

За нейкія 10 мінут на прыступках станцыі метро "Няміга" былі растаптаны 52 чалавекі — у асноўным моладзь, з іх 44 дзяўчыны.

Ужо праз некалькі мінут сітуацыя была ўзята пад кантроль. Ды і сам народ зразумеў, што адбываецца нешта страшнае, і хваля адхлынула ў розныя бакі... Але на прыступках засталіся тыя, хто ўжо ніколі не ўстане.

## БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА: ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ПРАВОЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб заключэнні пагаднення паміж нашай краінай і Украінай аб супрацоўніцтве ў забеспячэнні правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей. Правядзенне перагавораў і падпісанне данага дакумента даручана старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандру Білыку. Яму дазволена таксама пры неабходнасці ўносіць у пагадненне змены і дапаўненні, якія не маюць прынцыповага характару.

## СЭЗ «МІНСК» НА ГАНОВЕРСКІМ КІРМАШЫ

Дэлегацыя свабоднай эканамічнай зоны (СЭЗ) "Мінск" упершыню прыняла ўдзел у Гановерскім універсальным кірмашы. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі кіраўнік адміністрацыі СЭЗ "Мінск" Мікалай Цэдрык.

Ён адзначыў, што наведванне кірмашу было ўдалым, таму што з боку замежных інвестараў праяўлена досыць высокая цікавасць. Было праведзена каля 100 дзелавых перагавораў на ўзроўні заключэння пратаколаў аб намерах, усяго перададзена каля 400 камплектаў дакументаў аб дзейнасці СЭЗ "Мінск".

"Па статыстыцы, ад агульнай колькасці першасных прапаноў каля 5 працэнтаў становяцца рэалізуемымі праектамі, але мы спадзяемся, што па выніках работы ў Гановеры гэты паказчык будзе вышэйшым", — падкрэсліў начальнік упраўлення маркетынга адміністрацыі СЭЗ "Мінск" Яўген Кастэнка.

Па словах М. Цэдрыка, конкурсная камісія была разгледжана 19 праектаў. 11 з іх адобраны, і іх удзельнікі зарэгістраваны ў якасці рэзідэнтаў СЭЗ. Аб'яўлены аб'ём інвестыцый у праекты складае 8 мільёнаў долараў.

Рэзідэнтамі СЭЗ зарэгістраваны прадпрыемствы з замежнымі інвестыцыямі з Польшчы, Італіі, Чэхіі, Германіі, але асноўнымі інвестарамі з'яўляюцца беларускія, адзначыў М. Цэдрык.

ЭКАНОМІКА

## У ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ НА НОВЫМ АЎТОБУСЕ

Аўтобусная вытворчасць Мінскага аўтамабільнага завода плануе да 2001 года выпусціць доследны ўзор гарадскога аўтобуса асабліва вялікай умяшчальнасці, у якім можна будзе адначасова перавозіць 130 чалавек. Трохвосевы аўтобус будзе выпускацца ў асноўным з вузлоў і дэталей, якія серыйна вырабляюцца на МАЗе, што максімальна дазволіць зменшыць цану на прадукцыю. Новы аўтобус, даўжыня якога складзе 15 метраў, стане альтэрнатывай сучасненаму аўтобусу МАЗ-105. У 2000 годзе плануецца асвоіць серыйны выпуск міжгародняга аўтобуса МАЗ-152.

Праектныя магутнасці МАЗа разлічаны на выпуск 500 аўтобусаў у год пры адназменным рэжыме работы. Мяркуецца, што ў бягучым годзе прадпрыемства збярэ каля 400 аўтобусаў, а ў 2000 годзе выйдзе на праектную магутнасць. Да 2005 года плануецца павялічыць аб'ёмы выпуску аўтобусаў да 1 тысячы машын у год.

Сёння асноўным спажыўцом з'яўляецца Мінск, які набыў 230 машын. У Расію экспартавана 111 аўтобусаў МАЗ.

**Тамара БЯЛЯЕВА.**

## СТАБІЛІЗАЦЫЯ ТРАНЗІТУ ПА МАГІСТРАЛІ М1/Е30

Транзіт па галоўнай аўтамагістралі рэспублікі М1/Е30 "Брэст — Мінск — граніца Расіі" стабілізаваўся. Як паведамілі ў Камітэце па аўтамабільных дарогах Беларусі, у канцы мінулага года з-за крызісных з'яў у Расіі быў адзначаны спад транзітных грузаперавозак па беларускіх аўтадарогах. Сёння паток транзітнага транспарту па магістралі М1/Е30 узрос і дасягнуў узроўню мінулага года.

Як адзначылі спецыялісты камітэта, паступленне грашовых сродкаў ад збору платы за праезд аўтатранспарту па дарозе "Брэст — Мінск — граніца Расіі" дасягнула запланаванага ўзроўню, што дае магчымасць разлічвацца па атрыманаму для мадэрнізацыі М1/Е30 крэдыту Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, а таксама накіроўваць грашовыя сродкі на далейшае развіццё магістралі.

ЗРОБЛЕНА Ў БЕЛАРУСІ

## МІМА МІНСКІХ ГАДЗІННІКАЎ *НЕ ЗМОГ ПРАЙСЦІ НАВАТ ГУБЕРНАТАР*

У Валгаградзе прайшла выстава-кірмаш "Зроблена ў Беларусі", арганізатарамі якой выступілі выставачная фірма "Царыцынскі кірмаш", Валгаградская гандлёва-прамысловая палата і адміністрацыя Валгаградскай вобласці.

У яе адкрыцці ўдзельнічала вялікая дэлегацыя з Мінска, у складзе якой былі намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Леанід Козік, пасол Беларусі ў Расіі Уладзімір Грыгор'еў, прадстаўнікі Беларускай гандлёва-прамысловай палаты. З валгаградскага боку выставу-кірмаш адкрыў губернатар вобласці Мікалай Максюта, які сказаў: "Ідучы на збліжэнне з Беларуссю з 1996 года, мы яшчэ і яшчэ раз пераконваемся, як гэта карысна". Дарэчы, толькі ў мінулым годзе тавараабарот паміж валгаградскімі і беларускімі тавараўытворцамі склаў 75,3 мільёна долараў ЗША, экспарт — 27 мільёнаў долараў, імпарт — 48,2 мільёна долараў.

Наколькі патрэбны беларускія тавары валгаградцам, можна было пераканацца ўжо ў Палацы спорту. "Як, вы не будзеце прадаваць сваю прадукцыю?!" — пыталіся валгаградкі ў прадстаўнікоў Брэсцкага панчошнага камбіната. Абурэнне сапраўды мела пад сабой рэальную аснову: прайсці міма калготак і панчох, якія па прыгожасці і якасці зусім не саступаюць разрэкламаванай заходняй прадукцыі, было сапраўды цяжка.

А вось прадпрыемства "Элема", якое выпускае прыгожыя паліто, паўпаліто, спадніцы і жакеты, святочны распродаж пачало з першага дня. Магчыма, гэтыя тавары ў хуткім часе будуць упрыгожваць вітрыны вядомых валгаградскіх магазінаў, бутыкаў і... рыначныя стэлажы. "Чаўнакі", якія прыехалі на выставу "Зроблена ў Беларусі", так і заявілі: "Нам такія рэчы ні ў адных Эміратах не прапануюць, а калі і прададуць, то ў тры разы даражэй!"

Беларусы навучыліся рабіць усё. І абутак таксама. У гэтым пераконваў прыгожы і добры скураны абутак ад "Отыкі" па прымальных цэнах. Вось толькі і тут многіх валгаградцаў спасцігла расчараванне: далёка не ўсе экспанаты ад "Отыкі" можна было купіць. Пакупнікі адыходзілі ад стэндаў з надзеяй, што ў хуткім часе "чаравічкі" "Made in Belarus" абавязкова "даедуць" да Валгаграда.

"А гэта ўсё сапраўды робіцца ў Беларусі?" — пыталіся валгаградцы, разглядаючы прыгажуны веласіпеды "Аіст", тэлевізары "Гарызонт", мяккія цацкі, пляжныя бікіні і карункавую жаночую бялізну. Зачароўвала ўсё: ад усмешлівых прадаўшчыц у нацыянальных касцюмах і мілагучнай беларускай мовы, што пашчыла слых, да выкананай па ўсіх еўрапейскіх стандартах упакоўкі мінскіх цукерак, пельменяў і солі.

Легендарныя гадзіннікі "Прамень" Мінскага гадзіннікавага завода, цэны на якія намнога ніжэйшыя за аналагічныя расійскія, зачаравалі самога губернатара. "Калі мы адкрыем магазін беларускіх тавараў, то вам там дадзім цэлы стэнд!" — усміхаўся ў камеры і фотааб'ектывы Мікалай Кірылавіч.

Нямала дасягнулі беларусы і ў лакафарбавай, дрэваапрацоўчай і цяжкай прамысловасці. Аб апошняй можна было меркаваць па выстаўленых ля ўваходу ў Палац спорту трактарах і тралейбусах. Калі вобласць знойдзе сродкі, то гэтыя сучасныя і камфартабельныя "рагатыя" заменяць старэнькія тралейбусы.

"У параўнанні з беларускай расійская вытворчасць проста адпачывае", — з лёгкім сумам у голасе канстатавала пераважная большасць наведвальнікаў выставы-кірмашу "Зроблена ў Беларусі".

Зрэшты, валгаградскі рэгіён таксама не падвёў, прадставіўшы гасцям з Белай Русі прадукцыю больш чым 40 вядомых як у Валгаградзе, так і далёка за яго межамі прадпрыемстваў. "Сярод іх ААТ "Волгамясамалгандаль", лікёра-гарэлачны завод "Валгарадскі", сетка будмаркетаў "Дыамант", масласырбаза "Валгарадская", АТ "Канфіл", фабрыка "Царыца", прадпрыемства безалкагольных напіткаў, прадпрыемства па вытворчасці аўтобусаў "Валжанін", ватная фабрыка, ААТ "Цацка" і іншыя.

Па словах саміх беларусаў, яны чакаюць ад гэтага кірмашу многага. Перш за ўсё поўнай ліквідацыі "жалезнай заслоны", што з'явілася пасля распаду СССР. "Мы думаем, што аднаўленне рэгіянальных вытворча-гаспадарчых і гандлёва-эканамічных адносін паміж абласцямі і гарадамі нашых дзяржаў з'явіцца добрай асновай для папаўнення спажывецкіх рынкаў рэгіёнаў", — заявіў у сваім прывітальным звароце да ўдзельнікаў выставы "Зроблена ў Беларусі" першы намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь В. Вялічка.

Жаданне сяброваць пацвердзілася ўжо на адкрыцці, калі ў выставачнай зале беларусы пусціліся танцаваць з данскімі казакамі з ансамбля "Казачы курэнь"...

**Кацярына ГАРАЧАВА.**
("Деловые вести").
г. Валгаград.



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ДОКТАР ЛЕСУ





ГАСПАДАРА засталі каля яго хаты. Сярэдняга росту. Моцна скроены. З сівізной на скронях. А ў вачах — малады запал.

Здаецца, нядаўна ўрачыста адзначаўся паўвекавы юбілей Івана Прыхно. А ўжо і чарговая ўрачыстасць набліжаецца: хутка знатнаму беларускаму лесаводу споўніцца 75.

— Ведаеце, — з лёгкай усмешкай, за якой, як мне падалося, прыхаваны светлы сум, сказаў Іван Іванавіч, — а я гадоў не адчуваю. Яшчэ працую ў лясгасе. Пражыў і пераажыў шмат. Усяго спазнаў, усяго пабачыў...

Раніца была свежая, бадзёрая. У агародзе раскашавалі памідоры, агуркі, бульба, цыбуля. Грады, садок — акуратныя, дагледжаныя.

Дзень браўся цудоўны — сонечны, ясны. Але далёка не ўсе ўспаміны Івана Іванавіча былі такія бясхмарныя. Ён спаўна зведаў і горыч вайны, і пасляваеннае ліхалецце. Вайна жорстка абышлася з юнаком, які толькі што скончыў сярэднюю школу ў Чарнігаве. Узялі яго ў салдаты пасля вызвалення горада. За ўдзел у фарсіраванні Дняпра ўзнагародзілі баявым ордэнам. А пад Калінкавічамі 9 студзеня 1944 адарвала нагу, застаўся інвалідам другой групы.

— Мне і майму бацьку пашчасціла, — лічыць Іван Іванавіч. — І ён, і я былі кулямётчыкамі, а гэта значыць, знаходзіліся на самай перадавой пазіцыі. Бацька прайшоў вайну, як кажуць, ад званка да званка. З майго кулямётнага ўзвода засталіся жывымі толькі двое. У нас як ваявалі? "Вунь, — паказваў ротны камандзір, — тую горку ўзяць да 18.00". І ішлі, і бралі.

Пасля Перамогі бацька сказаў сыну:

— Ідзі вучыся.

Іван Іванавіч скончыў педінстытут. Аднак любоў да прыроды, да лесу ўзяла сваё. У 1946 годзе паступіў у Беларускі тэхналагічны інстытут. Паехаў пасля яго заканчэння на работу ў Петрыкаў з маладой жонкай. Людмілу Рычардаўну прызначылі на пасаду інжынера лясных культур, а Івана Іванавіча — інжынерам лясной гаспадаркі. Пасля пяць гадоў працаваў старшым ляснічым, а з 1961 года — амаль чвэрць стагоддзя дырэктарам лясгаса.

— Так і прайшло маё працоўнае жыццё ў Петрыкаве, — падсумаваў Іван Іванавіч. — І не шкадую.

Івану Прыхно могуць пазайздросціць многія лесаводы. Пад яго кіраўніцтвам, пры яго ўдзеле пасаджана каля дваццаці тысяч гектараў лесу, народнай гаспадарцы, спажыўцам адпушчана каля дзесяці мільёнаў кубаметраў драўніны. Іван Іванавіч узнагароджаны ордэнам "Знак пашаны", дзвюма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета. Ён заслужаны лесавод Беларусі...

Скрыпнула брамка — і на падворку паявіўся шустры хлопчык з веласіпедам.

— Мой унук, — ласкава ўсміхнуўся Іван Іванавіч. — А вось і яго маці, мая дачка Таня.

Адбылася і нечаканая для мяне сустрэча.

З хаты выйшла хударлявая жанчына паважанага ўзросту. Калі яна вярнулася на кухню да жонкі Людмілы Рычардаўны, Іван Іванавіч сказаў:

— Дагмара Дзмітрыеўна Сялецкая — дачка сакратаркі-стэнаграфісткі Сяргея Міронавіча Кірава. Пагаварыце з ёю. Незвычайны лёс у гэтай жанчыны, дваюраднай сястры маёй жонкі.

Бацька Дагмары, які будаваў электрастанцыю каля Ленінграда, памёр у 1932 годзе. Сямігадовая дзяўчынка часта хадзіла на работу да маці, дзе сустракалася з Сяргеем Кіравым, як ёй запомнілася, ласкавым, усмешлівым. Калі праз два гады яго забілі (па адной з версій — па загаду Сталіна, бо Кірава вельмі паважалі ў краіне, у партыі), усё яго атачэнне рэпрэсіравалі: каго расстралялі, каго пасадзілі, выключылі з партыі. Маці Дагмары прышылі "справу Зіноўева", які жыў побач з імі. Зіноўева дзяўчынка таксама запомніла. Маці апынулася ў сталінскім канцлагеры ў Архангельскай вобласці.

Дагмара Дзмітрыеўна не-не ды згадвае свае цяжкія дзіцячыя гады: і паездку да маці ў лагер, і блакаднае жыццё ў Ленінградзе, і пасляваенныя нягоды. Цяга да малявання прывяла яе ў тэатр камедыі, дзе пачала працаваць мастаком. 47 гадоў аддала тэатру, атрымала званне заслужанага работніка культуры Расіі. Поўнасцю афарміла пяць спектакляў і два кінафільмы, у тым ліку "Новыя прыгоды пры двары караля Артура"...

Падзякаваўшы гаспадару за смачнае віно, прыгатаванае ім са сваёй садавіны і ягад, мы пазнаёміліся з горадам і яго ваколіцамі. Іван Іванавіч з задавальненнем паказаў нам маладую дуброву. Дубы — яго любімыя дрэвы, прыгожыя, дужыя.

— Усе працоўныя гады я аддаў, каб аднавіць знатныя палескія дубровы. Штогод мы садзілі ў лясгасе да 50—60 гектараў гэтых сімпатычных дрэўцаў. Не ўсе прыжыліся, але многія падужэлі, выраслі, набраліся сілы.

Пабылі мы і ў "лесе Ігара Шклярэўскага". Паэт, які нарадзіўся ў Беларусі, вучыўся ў педтэхнікуме. Аднойчы, атрымаўшы ганарар за кнігу вершаў, аддаў грошы на пасадку лесу над Прыпяццю. Было гэта ў 1992 годзе. "Хачу, — сказаў І. Шклярэўскі, — каб на параненай Чарнобылем маёй беларускай зямлі раслі лясы, цвілі сады".

Нельга без хвалявання глядзець на малады лясок каля Прыпяці, якая прывольна разліла свае шырокія воды. А над ім, над слаўнай ракой, апетай Якубам Коласам, ад краю да краю раскінулася блакітнае чыстае неба. І па ўсёй гэтай прасторы — цішыня. І растуць лясы, пасаджаныя Іванам Іванавічам.

Звадзіў ён нас і да помніка дзеду Талашу, герою аповесці Якуба Коласа "Дрыгва". Каля яго Іван Іванавіч сказаў:

— Ганарова, што такі чалавек жыў на нашай зямлі, ваяваў за волю ў нашых прыпяцкіх лясах.

Прыемнай была сустрэча з "доктарам лесу", як назваў сябе І. Прыхно. Думаю, што такая характарыстыка справядлівая.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
Гомельская вобласць.



*Дагмара СЯЛЕЦКАЯ.*



*Сямейства ПРЫХНО.*

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## БУДОЎЛЯ АЙЦА ФЁДАРА

**На фоне зялёнай палоскі лесу ў раёне станцыі метро "Усход" віднеюцца вежы будаўнічых кранаў. Сюды мы прыехалі з настаяцелем Усехсвяцкага прыходу і куратарам аб'екта, протаіерэем Фёдарам Повным. Айцец Фёдар бывае тут кожны дзень і ставіцца да гэтай будоўлі, як да роднага дзіцяці. Яно і зразумела: ён вынасіў гэтую задуму, уклаў у яе часцінку сваёй душы, затраціў на яе ажыццяўленне нямала сіл.**

Калі стаяла пытанне аб выбары месца для будаўніцтва Дома міласэрнасці, то ў архітэктурным упраўленні айцу Фёдару сказалі, паказаўшы на карце раён цяперашняга яго знаходжання, што гэта лепшае, што можна знайсці ў межах Мінска. І далі: "Калі вам удасца дабіцца дазволу на будаўніцтва ў гэтым месцы, то можаце лічыць сябе шчаслівымі". Удалося. З Божай дапамогай і з дапамогай кіраўніцтва горада і рэспублікі.

А значыць, у хуткім часе ў нашай сталіцы з'явіцца унікальны комплекс, падобнага якому няма на ўсёй тэрыторыі былога Саюза. Гэта будзе адзіны ансамбль будынкаў, дзе апошнія дасягненні навукова-тэхнічнай думкі створаць яго насельнікам поўны камфорт як у фізічным, так і ў псіхалагічным плане. У Доме міласэрнасці слабыя, хворыя і нямоглыя знойдуць для сябе прытулак, цяпло і спакой. Тут іх акружаць увагай, любоўю і клопатам. Адгародзяць ад жорсткіх рэалій нашай цяперашняй рэчаіснасці.

У Доме міласэрнасці будзе ўсё: царква, дзе можна сам-насам пагаварыць з Творцам, спавядацца і прычасціцца, ачысціўшы душу ад грахоў, дзе, калі давядзецца пакінуць зямныя пакуты, цябе праводзяць у апошні шлях па ўсіх хрысціянскіх правілах і традыцыях. Тут будзе і невялікае сястрынства для тых, хто вырашыць поўнасцю прысвяціць сябе служэнню бліжняму. Зручныя для жыцця нумары, пакоі для прыёму гасцей, бібліятэка, майстэрня — нядзельная школа, звонкі смех гадаванцаў якой будзе нагадваць аб вялікай тайне быцця, і многае іншае, што дазволіць насельнікам Дома міласэрнасці далучыцца да пасільнай працы і не адчуваць сябе забытымі Богам і людзьмі. Гэта дасць ім магчымасць адпушчаныя стваральнікам рэшткі дзён пражыць паўнацэнна, насычана і духоўна багата.

Больш спакойна і светла становіцца пры думцы аб гэтай будуемай абіцелі, дзе зацепліўся яшчэ адзін запалены праваслаўнай царквой агеньчык дабра і міласэрнасці.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

НОВАЯ КНІГА

## ІСЦІ НА СВЯТЛО

**РАІСА БАРАВІКОВА**, *паэтэса.*

Адразу ж хочацца сказаць, што будучая кніга "Адценні жыцця" без перабольшання бачыцца ў нечым унікальнай. Мы ўсе жывем у няпросты час, калі ўжо здаецца, што выключна ўсё ведаем пра мінулае, нічога пра будучыню і штодня стараемся атрымаць як мага больш інфармацыі пра дзень сённяшні. Інфармацыя бывае рознай, ды і мінулае ў нас у кожнага сваё, гэта ўжо залежыць ад жыцця, як яно складвалася. У гэтым сэнсе аўтар валодае багатым жыццёвым матэрыялам. Арсен Ваніцкі працаваў у камсамоле, у Міністэрстве культуры і, нарэшце, шмат гадоў узначальвае Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. І можна толькі ўявіць, колькі было выхаваўчай працы з маладой творчай інтэлігенцыяй напачатку, а потым, падчас працы ў міністэрстве, — сустрэчы, кантакты, дапамога і падтрымка сталых майстроў беларускага мастацтва і ўвогуле ўсёй беларускай культуры. Працавалася ж на яе развіццё, росквіт. Як успрымаецца наша культура, наша мастацтва ў свеце, расказваюць многія старонкі кнігі, якая абавязкова захопіць і нашага айчыннага чытача, і замежнага.

Беларускі чытач адкрые для сябе шмат краін, дзе моваю мастацтва расказвалі пра Беларусь многія і многія творчыя калектывы. Гэта тая надзвычай карысная інфармацыя, якая дапамагае мацаваць масты сяброўства і дружбы ў нашым неспакойным свеце. Замежны ж чытач праз старонкі кнігі больш шырока дазнаецца пра Беларусь, пра многія адценні жыцця нашага народа як мінулага, так і сённяшняга. І самае галоўнае, што гэтыя "адценні" пададзены ў кнізе з любоўю і зычлівасцю. Там, дзе ідзе гаворка пра духоўнасць, не можа быць змрочных фарбаў, адсюль і шмат святла, часам добрай чалавечай усмешкі на яе старонках. Надзвычай кранаюць першыя раздзелы кнігі, дзе аўтар расказвае пра сваё дзяцінства, якое апаліла вайна. І гэта асаблівая тэма для кожнага беларуса, а для кнігі — тыя ўводзіны, якія засцерагаюць і падводзяць да думкі, што толькі праз дружбу, праз узаемаразуменне і добрыя чалавечыя кантакты народы могуць пазбягаць катастроф.

Чалавеку ўласціва ісці на святло, а той, хто раскрые старонкі гэтай кнігі, прыйдзе да Беларусі, да яшчэ аднаго знаёмства з нашай зямлёю і яе талентамі.

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# «ЛІТАРАТУРНЫ ЭКСПРЭС-2000»





БЕЛАРУСКАЯ сучасная літаратура ўсё больш цікавіць замежныя культурніцкія колы. І гэта натуральна. Чалавецтва нарэшце ўсведамляе, што нацыянальныя духоўныя здабыткі мусяць складацца ў адзін шматколерны калаж.

Саюз беларускіх пісьменнікаў аднаўляе сувязі з літаратарскімі суполкамі іншых краін, наладжвае новыя сувязі. Супрацоўніцтва з аб'яднаннем нямецкіх пісьменнікаў "ЛітэратурВЕРКштат Берлін" ужо сталае. "ЛітэратурВЕРКштат", або "Літаратурная майстроўня", арганізуе сустрэчы з літаратарамі розных краін.

Нядаўна, якраз у той час, калі сталіца Германіі нагадвала квітнеючы сад, гасцямі "Літаратурнай майстроўні" Берліна сталі беларускія літаратары, прадстаўнікі розных пакаленняў, стыляў і жанраў. Знаёмству з іх творчасцю было адведзена тры вечары. У першы вечар было спланавана выступленне Васіля Быкава і Сяргея Законнікава, у другі — Уладзіміра Някляева і Галіны Булыкі, у трэці — Алеся Разанава і Людмілы Рублеўскай. Гледачам давалася магчымасць пачуць аўтэнтычную беларускую мову з вуснаў аўтараў твораў, пасля творы чыталіся ў перакладзе на нямецкую мову. Далей быў час дыскусіі. Нельга не адзначыць цікавасць публікі да жыцця і творчасці сучасных беларусаў. Вечарыны зацягваліся дапазна, адчувалася шчырае жаданне прысутных зразумець культуру іншага народа, спачуванне яго праблемам. Па водгуках слухачоў, усе тры вечарыны атрымаліся рознымі, кожная была своеасаблівай, і ўсе тры склалі калаж, які досыць поўна адлюстраваў панараму сённяшняй беларускай літаратуры.

Так, можна было пераканацца, што літаратура — менавіта галіна развіцця чалавечага духу, здольная яднаць людзей. Моўны бар'ер, які часам здаецца непераадольным, не можа стрымаць сапраўдныя здабыткі ад засваення сусветнай наасферай. Трэба сказаць, што арганізатары гэтых сустрэч у Берліне — дырэктар "Майстроўні" доктар Томас Вольфарт, яго намесніца Маргарэт Манц, вядучыя вечарын літаратары Норберт Рандаў, Норберт Франц, Крыстаф Хебнер зрабілі ўсё магчымае для плённага сумоўя.

Сустрэчы ў Берліне — не адзіны праект "ЛітэратурВЕРКштат-Берлін". У наступным, 2000 годзе, здзейсніцца такое глабальнае пачынанне, як "Літаратурны экспрэс-2000", у якім прымуць удзел таксама і беларускія літаратары. Праз усю Еўропу на працягу двух месяцаў будуць падарожнічаць літаратары, вылучаныя ўсімі краінамі Еўропы для ўдзелу ў праекце, сустракацца з публікай, чытаць свае творы, прыцягваць увагу сусветнай супольнасці да духоўных праблем грамадства.

Будзем спадзявацца, што духоўнае ўзаемаразуменне аматараў "высокай" літаратуры павінна ў рэшце рэшт прывесці да ўзаемаразумення народаў, да стварэння на зямлі ў будучым тысячагоддзі гарманічнага грамадства з усім суквеццем нацыянальных культур.

**Людміла ШНІП.**

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

## Уладзімір ЖЫЛКА:

## «У МАІМ МАЛЕННІ АДЗІНАЯ ТЫ»

У ТБК Вільні адбылася імпрэза, прысвечаная двум знакамітым людзям — грамадскаму дзеячу Івану Луцкевічу і паэту Уладзіміру Жылку. Дні народзін іх прыпадаюць на травень месяц. Лёсам было наканавана ім кароткае жыццё, але яны пакінулі адметны след у беларускай гісторыі, культуры. Жыццё І. Луцкевіча цесна звязана з Вільняй, беларускай гімназіяй, беларускім музеем.

Нядаўна "вярнуўся" і Уладзімір Жылка для шырокага кола чытачоў. Як самую каштоўную рэч захоўваю зборнік паэта, выдадзены ў серыі "Беларускі кнігазбор", з цудоўнай прадмовай паэта Міхася Скоблы. Уладзімір Жылка, як і Максім Багдановіч, быў улюбёны ў Вільню, у Вільні выйшаў першы зборнік ягоных вершаў "На растані" (1924). Ён бываў у Віленскім беларускім музеі, створаным Іванам Луцкевічам, блізка пазнаёміўся з Антонам Луцкевічам, а Леапольд Родзіч паспрыяў, каб У. Жылка паехаў на вучобу ў Пражскі універсітэт. Па вяртанні ў Мінск цяжкахворага паэта арыштоўваюць і высылаюць ва Уржум Кіраўскай вобласці, дзе ён і памёр у 33 гады на чужыне, у адзіноце. У "Тастаменце" (1932—1933) паэт пісаў:

"На могілках зацішных Росы
Хачу спачыць ад каламут,
Сачыцьмуць мой спакой
найпільней
Муры старой, каханай Вільні.

Спачывае У. Жылка далёка ад Вільні, але яго вершам наканавана доўгае жыццё. І ў Івана Луцкевіча, і ва Уладзіміра Жылкі ёсць даты народзін, яны, як зоркі, свецяць нашчадкам.

**Леакадзія МІЛАШ.**

Вільня.

## ДАРОГАМІ СМУТКУ І ПАМЯЦІ

Памяць аб гэтай сумнай падзеі не пакідае многіх гродзенцаў. У траўні 1942 года фашысцкія забойцы пазбавілі жыцця тысячы яўрэяў з Ліды, Радуні, Шчучына, Жалудка, іншых гарадоў і мястэчак. Таму вось ужо каторы год прыязджаюць у Прынямонне ўраджэнцы гэтай зямлі і іх нашчадкі з розных краін свету. І разам з актывістамі мясцовых яўрэйскіх абшчын наведваюць брацкія магілы ахвяр гета, чытаюць там малітву, выконваюць жалобны рытуал.

Так было і сёлета. Вялікая група яўрэяў з Ізраіля, Злучаных Штатаў Амерыкі, Літвы наведала блізкія іх сэрцу мясціны ў Лідзе і Навагрудку, Міры і Іўі, Радуні і Беліцы... Сярод гасцей былі былыя воіны Чырвонай Арміі, падпольшчыкі і партызаны. Можна зразумець, як цікава было прыгадаць сваю баявую маладосць Рубіну Кінкулькіну і Яўгену Смаленскаму, Якаву Мазаві і Іцхаку Вайнштэйну, іншым удзельнікам чарговай незабыўнай паездкі на зямлю сваіх продкаў.

У час сустрэч госці з зарубежжа з задавальненнем знаёміліся з набыткамі гродзенцаў у нацыянальным адраджэнні.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

### ПАПРАЎКА

У № № 19—20 ад 13—20 мая гэтага года ў матэрыяле "Пашпарт літоўскі, душа беларуская" недакладна названа імя прэзідэнта Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве Леаніда Мурашкі. З гэтай нагоды рэдакцыя прыносіць прабачэнні паважанаму Леаніду Адамавічу і чытачам "Голасу Радзімы".

# АКІЯН — НЕ ПЕРАШКОДА

БЕЛАРУСКАЯ эміграцыя дала свету нямала вядомых і самаахвярных дзеячаў, якія ўнеслі прыкметны ўклад у развіццё беларускай навукі і культуры ў блізкім і далёкім замежжы. Прадстаўнікі новага, больш маладога пакалення знаходзяцца толькі ў пачатку такой цікавай, але ў той жа час і вельмі складанай працы. Менавіта сярод маладых беларусазнаўцаў вылучаецца асоба аўтара кнігі "Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы", якая сёлета пабачыла свет у сталіцы нашай суверэннай краіны.

Аўтар кнігі — вядомы ў беларускім замежжы літаратуразнаўца, крытык і грамадскі дзеяч, супрацоўнік аддзела рукапісаў Нью-Йоркскай бібліятэкі, магістр філалогіі Лявон Юрэвіч. Ён нарадзіўся ў Мінску, скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, пасля чаго вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук і выкладаў беларускую мову ў Мінскім педінстытуце замежных моў. У 1993 годзе пераехаў на сталае месца жыхарства ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

Лявон Юрэвіч — аўтар такіх навуковых прац, як "Беларуская мемуарная літаратура на эміграцыі" (1999), "Архіўная кніга" (1997). Вынікі яго літаратуразнаўчых даследаванняў друкаваліся ў калектыўных выданнях, напрыклад, "Вяртання маўклівая споведзь" (1994), "Культура беларускага замежжа" (1998), "Запісы БІНіМ", а таксама ў розных перыядычных выданнях, энцыклапедыях. Быў укладальнікам (разам з навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Валянцінай Грышкевіч) бібліяграфічнага ўказальніка "Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць" (Мн. 1995).

На працягу апошніх гадоў Лявон Юрэвіч непасрэдна спрычыніўся да падрыхтоўкі і выдання ў Нью-Йорку зборнікаў Уладзіміра Дудзіцкага, Міколы Целеша, Юркі Віцьбіча і інш. Ён актыўны ўдзельнік разнастайных культурных і навукова-асветных мерапрыемстваў беларускай дыяспры ў Злучаных Штатах Амерыкі.

У кнігу "Камэнтары" ўваходзяць літаратуразнаўчыя артыкулы маладога аўтара (Л. Юрэвічу ўсяго 34 гады), сярод якіх, напрыклад, "Да гісторыі станаўленьня жанру гісторыка-міфалагічнай прозы", "На шляху "з варагаў у грэкі": праблемы гісторыі — праблемы сучаснасці", "Беларускі тэатр і драматургія на эміграцыі", "Лябірынты" Вацлава Ластоўскага: спроба разгорнутага каментара выбраных месцаў", "Паэзія і праўда жыцця: Янка Юхнавец", "Айцы марыяны" і інш. Даволі грунтоўнае і цікавае пасляслоўе да кнігі напісаў вядомы беларускі філосаф, культуролаг Уладзімір Конан.

У першым артыкуле "Да гісторыі станаўлення жанру гісторыка-міфалагічнай прозы" Лявон Юрэвіч адзначае, што характэрнай рысай усёй літаратуры эміграцыі з'яўляецца "паслядоўная абарона прынцыпаў дзяржаўнасці і асуджэнне ўсякіх праяваў антыдзяржаўных індывідуальных і групавых інтарэсаў". Далей аўтар падлічвае, што ў гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзяў практычна немагчыма знайсці пісьменніка, які б не спрабаваў зазірнуць у мінуўшчыну Беларусі, чэрпаючы ідэі, тэмы, сюжэты, вобразы і калізіі з багатай вуснай народнай творчасці — фальклору. Пры гэтым галоўнай ідэяй беларускіх пісьменнікаў, якія ўзнаўлялі легендарную мінуўшчыну Бацькаўшчыны, была ідэя магутнай беларускай дзяржаўнасці, знітаванасці сучаснага і мінулага.

У асобным артыкуле аналізуецца аповесць Вацлава Ластоўскага "Лябірынты", якую Л. Юрэвіч называе беларускай містэрыяй XX стагоддзя. І далей ён сцвярджае, што амаль кожны народ меў сваю містэрыю, сваю таемную мову, без ведання якой гэтыя містэрыі ўвогуле нельга зразумець. Аднак, на думку даследчыка, у жанры міфалагічнай прозы на Беларусі больш-менш плённа працавала няшмат пісьменнікаў. У адной з сваіх прац Л. Юрэвіч слушна сцвярджае, што сусветнае мастацтва садзейнічае нараджэнню мастацтва нацыянальнага, якое, у сваю чаргу, арганічна ўваходзіць у сусветнае мастацтва і ўзбагачае яго. Прычым, на яго думку, без такой інтэграцыі і ўзаемаўзбагачэння існаванне і развіццё культуры практычна немагчымае.

Л. Юрэвіч сімвал літаратуры бачыць у выглядзе кола, бо ідэі, жанры, мастацкія сродкі паступова змяняюцца, знікаюць, каб вярнуцца зноў на новым павароце, на новым вітку гісторыі. А ў сярэдзіне гэтага кола ён змясціў бы міфалогію — "сэрца" культуры, ад якога ідуць своеасаблівыя ніткі — "артэрыі", што злучаюць мінуўшчыну і будучыню. Даследчык лічыць, што міфалогія з'яўлялася спачатку крыніцай народных казак, легендаў і паданняў, а пазней і літаратурных твораў. Увогуле, міфалогію можна небеспадстаўна лічыць своеасаблівым "старажытным культурным фондам народу".

У разглядаемай кнізе змешчаны даволі цікавы артыкул пад назвай "Апостал кахання: Рыгор Крушына", прысвечаны творчасці гэтага адметнага беларускага паэта. Літаратурныя крытыкі бачылі унікальнасць паэзіі Р. Крушыны ў тым, што яго творчасць мае выразную эмацыйна-пачуццёвую накіраванасць (гэта, дарэчы, вельмі рэдкая з'ява ў беларускай літаратуры). Л. Юрэвіч адзначае, што нават Беларусь-Радзіма, вобраз якой у эміграцкай паэзіі амаль заўсёды быў узнёсла-вызначальны, у вершах Крушыны найчасцей выяўляецца праз вобразы Жанчыны, Маці, Сястры і Каханкі. Таму і не выпадкова, што многія вершы Р. Крушыны можна назваць сапраўды эратычнымі.

> ЛЯВОН ЮРЭВІЧ ЗРАБІЎ ГРУНТОЎНЫЯ КАМЕНТАРЫІ ДА ПРАБЛЕМ БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

У артыкуле "Тавізаўцы" расказваецца пра дзейнасць ў 20-я —30-я гады ў Савецкай Беларусі малавядомага літаратурнага аб'яднання "ТАВІЗ" — Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць, якое па розных прычынах падвяргалася шматлікім нападкам і абвінавачванням з боку мясцовых уладаў. Дарэчы, своеасаблівая аўтарская "рэканструкцыя" дзейнасці данага аб'яднання зроблена Л. Юрэвічам на падставе вывучэння прыватных архіваў беларускіх пісьменнікаў у ЗША (найперш на аснове ліставання Юркі Віцьбіча).

У кнізе друкуецца даволі грунтоўны артыкул Л. Юрэвіча "Беларускі тэатр і драматургія на эміграцыі", у якім разглядаюцца пытанні арганізацыі і дзейнасці беларускіх тэатральных сілаў у ЗША. Аўтар падкрэслівае, што першыя вядомыя тэатральныя пастаноўкі адбыліся ў Чыкага ў 1920-я гады. У якасці заключэння, на падставе ўважлівага аналізу зместу і тэмаў тэатральных пастановак аўтар робіць выснову, што беларускі тэатр і драматургія на эміграцыі захавалі тыя тэмы і ідэі, якія апынуліся пад забаронай у Савецкай Беларусі.

У артыкуле "Беларуская лексікаграфія за мяжой" дэталёва разглядаецца пытанне аб асаблівасцях падрыхтоўкі і ўмовах выдання розных слоўнікаў, даведнікаў, энцыклапедый і г. д. У канцы данага матэрыяла аўтар робіць невялікае рэзюме і адначасова выказвае спадзяванне, што "неўзабаве лексікаграфічныя і фразеаграфічныя працы, створаныя на эміграцыі, стануць, як і іншыя здабыткі духоўнага жыцця беларусаў замежжа, часткай адзінай беларускай навукі і культуры".

Акрамя таго, у "Камэнтарах" упершыню надрукаваны фрагменты з ліставання Ларысы Геніюш, а таксама прыводзіцца адзін яе малавядомы верш, прысвечаны дзеячу беларускай эміграцыі Вітаўту Тумашу. Тут жа друкуюцца лісты самабытнай беларускай паэткі Л. Геніюш да сваіх сяброў за межамі Беларусі, што былі напісаны на працягу 1970-х гадоў. Са зместу гэтых шчырых лістоў лёгка "праглядаецца" вобраз таленавітай, удзячнай дачкі свайго народа. Пра гэта яскрава сведчаць, напрыклад, наступныя радкі з яе лістоў: "...А не зрабіць нічога для свайго народу — не варта жыць", "Люблю, што пазітыўнае, але што не адпавядае маёй беларускай, чалавечай натуры, я ніколі не пагаджуся з тым — і тут уся бяда", "Моцна ў нашых людзях закаранілі тую "польскую" і "рускую" веру, паводле якой і пішуць нацыянальнасць", "Часам наглядаю, што нашая народная культура этычная — вялікая культура", "Наш маральны абавязак пасылаць дарагім суродзічам роднае слова з Бацькаўшчыны", "Хваробліва не пераношу няяснасці ні ў жыцці, ні на працы", "Найбольш ненавіджу ў свеце хлусні і двулічнасці. Яшчэ ненавіджу бесчалавечнасці. Люблю чэсных, ахвярных і адважных людзей, якіх бы перакананняў яны ні былі" і да т. п.

Можна зрабіць выснову, што пяру аўтара рэцэнзуемай кнігі належаць даволі глыбокія, змястоўныя і цікавыя навуковыя і навукова-папулярныя артыкулы, прысвечаныя гісторыі беларускай літаратуры, міфалогіі, жыццю і творчай дзейнасці вядомых дзеячаў айчыннай культуры ў мінулым і ў сучасны перыяд. Нават больш-менш уважлівы аналіз змешчаных у кнізе артыкулаў пераканаўча сведчаць, што яе аўтар — таленавіты і глыбокі даследчык, прычым не толькі ў галіне "роднага" яму літаратуразнаўства, але і культуралогіі, міфалогіі, гісторыі, фальклярыстыкі. Іншымі словамі, перад намі паўстае вобраз навукоўца-універсала, які ў свае яшчэ маладыя гады ўжо з'яўляецца аўтарам, так бы мовіць, "сталых", сур'ёзных даследаванняў. Зразумела, што не ўсе змешчаныя ў кнізе матэрыялы раўназначныя, не ўсе выкананы на аднолькавым навуковым узроўні. Сустракаюцца, безумоўна, і спрэчныя, дыскусійныя сцвярджэнні, аднак у данай рэцэнзіі на іх усё ж такі не хацелася б спыняцца.

Да таго ж аўтара кнігі ў пэўным сэнсе можна назваць яшчэ і адмысловым беларускім асветнікам сучаснага перыяду, які нясе светач новых ведаў, набытых карпатлівай і нястомнай пошукавай працай, удзячнаму чытачу як на Бацькаўшчыне-Беларусі, так і ў Амерыцы. І, нягледзячы на тое, што дзве краіны падзяляе вялізны акіян, напісаныя і апублікаваныя працы з'яўляюцца добрым здабыткам як амерыканскага, заакіянскага, так і нашага, роднага беларусазнаўства.

І на заканчэнне хацелася б даслаць "заакіянскаму" аўтару віншаванне з днём яго нараджэння і пажадаць яму новых творчых здзяйсненняў, а таксама новых грунтоўных "камэнтароў" і цікавых прац па розных праблемах беларускага літаратуразнаўства.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
в. а. загадчыка аддзела беларусазнаўства Нацыянальнага навукова-асветнага Цэнтра імя Ф. Скарыны, кандыдат гістарычных навук.

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# ПРАБЛЕМА АСТАТНІХ

Маючы магчымасць на працягу шэрагу гадоў прысутнічаць на абароне дыпломных работ у Акадэміі мастацтваў, я магу зрабіць выснову, што беларускае мастацтва і беларуская рэчаіснасць знаходзяцца нібыта ў розных эпохах. Асабліва, калі ідзе гаворка пра маладое мастацтва, пазбаўленае постсавецкага сіндрому і постсавецкай разгубленасці.

Сёння на зломе эпох непазбежна з настальгіяй прыгадваюць "старыя добрыя часы". Для беларускага мастацтва гэта 60-я—80-я гады. То быў час, так бы мовіць, "збірання камянёў". "Суровы стыль", "этнаграфізм", нацыянальны рамантызм, беларуская версія трансавангардызму — усё гэта здабытак прыгаданых дзесяцігоддзяў. Многія імёны той пары і сёння на слыху. Адзначу, што ў 60-я—80-я гады Беларусь упершыню за некалькі стагоддзяў з донара чужых культур ператварылася ў край, прыцягальны для мастакоў з іншых рэспублік Саюза. Былі сярод іх людзі вельмі і не вельмі таленавітыя. Але многія з іх далучыліся да стварэння беларускай нацыянальнай школы — адметнай з'явы мастацтва савецкай эпохі. Пра гэта сведчаць факты. Досыць пагартаць даведнік Беларускага саюза мастакоў альбо Беларускую энцыклапедыю літаратуры і мастацтва. Значная частка прафесійных мастакоў, што працавалі ў Беларусі ў 60-я—80-я гады, была не адсюль родам. Былі і мясцовыя людзі, якія, атрымаўшы адукацыю ў Маскве, Ленінградзе, Львове, Кіеве і маючы магчымасць там жа атабарыцца, усё ж ехалі дадому. Не апошняя справа патрыятызм, настальгія, але было і іншае: нармальныя (па савецкіх мерках) умовы працы і заробку. Калі адкрылася мяжа і вандроўка ў Парыж альбо Амстэрдам перастала быць для мастака надзвычайнай падзеяй, калі змяніліся ўяўленні аб жыццёвых каштоўнасцях, непазбежна павінна была распачацца "ўцечка талентаў". Сёння сталыя майстры і мастакі, што толькі-толькі скончылі Беларускую акадэмію мастацтва, пакідаюць Беларусь дзеля працы ў далёкім і блізкім замежжы.

"Час збіраць камяні і час раскідваць камяні» — гэта выслоўе з Бібліі найлепшым чынам адлюстроўвае тое, што адбылося ў нашым мастацтве на мяжы эпох. Нібыта 60-я—80-я гады адбіліся з дакладнасцю, але наадварот у люстэрку 90-х. Раней мы ганарыліся здабыткамі, цяпер — падлічваем страты.

Сёння мае аднакурснікі (я вучыўся ў 1974—1979 гадах у БДТМІ на аддзяленні дызайну) працуюць у Партугаліі, Ізраілі, Расіі. Тыя, хто застаўся на радзіме, час ад часу выбіраюцца ў замежжа на заробкі, прычым гэта не абавязкова праца па прафесіі. Нямала беларускіх дызайнераў працуюць на Маскву, на Расію, не выязджаючы з Мінска. Гэта, дарэчы, мадэль, адпрацаваная на Захадзе: быў час, калі еўрапейская навуковая эліта абслугоўвала ЗША, працуючы ў еўрапейскіх філіялах амерыканскіх фірм.

У 60-я—80-я гады на Захад з Беларусі ад'язджалі адзінкі, сёння ж немагчыма падлічыць, колькі творцаў страціла Беларусь за апошняе дзесяцігоддзе. Заўважце, рэкламныя буклеты, каталогі нашых мастакоў нават для выстаў на радзіме друкуюцца на англійскай і нямецкай мовах. У Беларусі няма пакупніка, таму і інфармацыя на беларускай мове непатрэбная.

Мы інвесціруем сваімі талентамі моцныя ў культурных адносінах краіны. Змагацца з гэтай з'явай указамі альбо дэкрэтамі немагчыма. Гэта — рынак. Наша мастацтва ўжо стаіць на рынкавых рэйках. А рэйкі тыя цягнуцца на Захад альбо на вестэрнізаваны Усход (тую ж Маскву).

Не ўяўляю, якім чынам можна спыніць гэты цягнік і ці варта ўвогуле гэта рабіць. І ўсё ж хочацца быць аптымістам. На змену "раскідванню камянёў" непазбежна павінен прыйсці час "збірання камянёў". Пры ўсіх стратах апошніх гадоў Беларусь па-ранейшаму мае моцны культурніцкі патэнцыял. Можа нават і не варта называць ад'езд за мяжу беларускага мастака "стратаю". Калі са студні не браць ваду, яна зарастае. Калі не губляць, дык і стымулу для пошуку няма. Тое, што сёння наша мастацтва, і найперш — маладое мастацтва, з'арыентаванае на іншага гледача, замоўцу і мецэната, — знак часу. Сутнасць праблемы не ў пэўных асобах, якія зрабілі свой выбар не на карысць Беларусі, а ў тым, што наша грамадства не паспявае рэагаваць на змены ў шкале каштоўнасцяў, марудна разварочваецца ў бок будучыні. Вось і атрымліваецца, што культурніцкая эліта, авангард моцна адарваліся ад асноўнай грамады. Яны ўжо там, куды большасць грамады толькі накіроўваецца (дарэчы, сама таго не ўсведамляючы). А калі так, дык гэта не праблема тых, хто наперадзе, гэта праблема астатніх.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**




Дзяцінства ўраджэнца Гродзеншчыны Яна Кузміцкага не было бязвоблачным: рана застаўся без бацькоў, часта галадаў. Зарабляў на кавалак хлеба тым, што пасвіў начамі коней. Паступіўшы пазней у школу фабрычна-заводскага навучання, атрымаў траўму, з-за якой страціў нагу. Тады і пакінуў Беларусь, жыў у Польшчы, Аўстрыі, Ізраілі. Цяпер Ян Кузміцкі жыве ў Швецыі, у горадзе Упсала, дзе ў яго з'явілася магчымасць поўнасцю аддацца творчасці: ён мастак. Але не толькі піша карціны, а і стварае скульптуры. Работы Кузміцкага ёсць у многіх прыватных калекцыях Еўропы, але асобую цікавасць яны выклікалі на радзіме, папоўніўшы музеі Мінска, Брэста, Гродна, Віцебска. За апошнія пяць гадоў мастак арганізаваў шэсць выстаў на Беларусі. Апошняя размясцілася ў Гомелі.

**НА ЗДЫМКУ:** мастак са Швецыі Ян Кузміцкі.

ВЫСТАВЫ





*Максім КАРОЛЬ. Дэкаратыўныя вазы "Вясна".*

# МАСТАЦКІ ЛІЦЭЙ — ЯСЛІ АКАДЭМІІ

**У гэтай школе таксама гучыць званок, адмяраючы час і запрашаючы на перапынак ці на чарговы ўрок. А таму прахожы можа прыняць яе за звычайную і памыліцца пры гэтым. Бо тут, у Мінскім ліцэі пры Акадэміі мастацтваў, гадуюцца юныя таленты, якім наканавана ў XXI стагоддзі прадоўжыць традыцыі беларускага мастацтва, адкрываць новыя напрамкі, заваёўваць новыя вяршыні.**

**Сёй-той з акадэмікаў ласкава называе школу-ліцэй № 26 "яслямі акадэміі". І гэта не выпадкова, бо ні адна ліцэйская выстава, ні адна абарона дыпломных работ не застаецца па-за ўвагай выкладчыкаў Акадэміі мастацтваў — яны прыглядаюцца да сваіх патэнцыяльных студэнтаў. Ну а для саміх ліцэістаў і кіраўнікоў іх праектаў і работ кожны выхад на гледача, няхай сабе і ў сценах роднай alma mater, — адказны экзамен і адначасова святочная падзея.**

Не стала выключэннем і сёлетняя выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, на якой былі прадстаўлены роспіс па шклу, выцінанкі, кераміка, вырабы з саломкі, інкрустацыя саломкай — жанры, традыцыйныя на Беларусі. Розны ўзрост аўтараў, розны ўзровень іх работ: у адных даволі адчувальная рука настаўніка, другія прывабліваюць сваёй непасрэднасцю, фантазіяй, трэція дасягнулі ўжо пэўнага ўзроўню тэхнікі... І ўсё гэта натуральна, бо нехта робіць свае першыя крокі, пераадольвае прыгоркі, а для кагосьці яны засталіся ззаду, а наперадзе чакае Акадэмія мастацтваў. Юля Канавалава, якой 11 год, зрабіла ўжо некалькі крокаў да сваёй першай вяршыні. Яе казка, намаляваная на шкле, — проста цуд. Дакладней, гэта не адна казка, а адразу некалькі — з асобнымі старонкамі ці персанажамі. Педагог дзяўчынкі Ніна Дранко задаволена вынікам іх сумесных намаганняў, поспехам сваёй выхаванкі.

З керамікі больш за ўсё прывабіла анамалістычная пластыка — юныя мастакі Валя Калеснікава і Воля Цішкова даволі свабодна адчуваюць матэрыял і працуюць з ім. І ў гэтым, вядома, заслуга іх выкладчыкаў Веры Маркаўцовай і Вольгі Кісялёвай. Дарэчы, абедзве вельмі засмучаліся, што частка цікавых работ з-за абмежаванасці выставачнай плошчы так і засталася ў кабінеце — майстэрні керамікі. Між іншым, гэта майстэрня ўяўляе сабой пастаянную выставу, якая час ад часу абнаўляецца новымі вучнёўскімі работамі. І зусім не выпадкова майстэрні — прадмет гордасці не толькі выкладчыкаў, але і кіраўніцтва ліцэя, якое ахвотна паказвае іх ганаровым гасцям. Але ў Свірыдэнка, кіраўніка майстэрні батыка, падстаў для засмучэння не было, бо адна трэць ад усёй выставы — гэта работы яе вучняў. 17-гадовая Святлана Амельчанка прадстаўлена ажно 5 батыкамі, якія сведчаць аб добрым веданні аўтарам паэзіі Пушкіна, Лоркі і Валошына, спробе інтэрпрэтацыі яе падуладнымі сродкамі. Было прыемна зноў сустрэць на выставе прыгожы трыпціх па японскіх матывах "Дзень і ноч", выкананы ў тэхніцы халоднага батыка Ленай Грэхавай. Гэта яе дыпломная работа, якую яна з поспехам абараніла ў ліцэі два гады таму. Цяпер Алена — студэнтка Акадэміі мастацтваў.

Так, птушаняты разлятаюцца з роднага гнязда, але не забываюць яго. Між іншым, прывабіла таксама на выставе вельмі мілая, быццам сатканая з танюткіх павуцінак выцінанка птушыная "Сям'я" 13-гадовай Ліды Нараб. Што ж, надыдзе час, і яна адправіцца ў свой вырай. Але адбудзецца гэта ўжо ў XXI стагоддзі.



*Ларыса ПІСАРЫК. "Кампазіцыя".*



*Ганна ШАЛІМА. Пано "Калядная ноч".*



*Юля КАНАВАЛАВА. "Вялікае свята вясны".*

***Фота Віктара СТАВЕРА.***

МІНСКІЯ ФЕСТЫВАЛІ

У мястэчку Акопы, што на Лагойшчыне, адбыўся злёт маладых літаратараў Мінскай вобласці. Кіраўнік — паэт Алесь Пісьмянкоў. Удзельнікі злёту агледзелі экспазіцыю філіяла літаратурнага музея Янкі Купалы.

На завяршэнне выступіў з канцэртам народны ансамбль "Шчодрыца".

* * *

У Мінску адбыўся Беларускі міжнародны фестываль тэатраў лялек. У фестывалі прынялі ўдзел тэатральныя калектывы Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Дагестана, Польшчы, Германіі, Францыі. Беларусь была прадстаўлена тэатрамі лялек з Магілёва, Гомеля, Маладзечна, Гродна, Віцебска, Брэста.

Самым лепшым спектаклем фестывалю прызнаны "На Івана Купалу" ў пастаноўцы Валынскага абласнога тэатра лялек (Украіна). Рэжысёр — А. Поляк, мастак — В. Бязуля.

* * *

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшоў фестываль мастацтваў украінцаў Беларусі. Адкрыў фестываль і выступіў з прывітальным словам намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей І. Яновіч.

Асабліва ўразілі выкананнем украінскіх песень заслужаны артыст Беларусі Фёдар Севасцьянаў і хор народнай песні "Магдаліна" з Кобрынскага раёна.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**

ПУШКІНІЯНА



**Аляксандр Пушкін, чыё 200-годдзе 6 чэрвеня святкаваў увесь свет, — паэт асаблівы. І справа не толькі ў тым, што гэта геніяльны расійскі паэт. Яго любяць і шануюць за надзею, якую даюць вершы паэта, надзею на каханне, сапраўднае сяброўства, на нешта асабістае для кожнага. Таму і святы паэзіі Пушкіна праходзяць паўсюль у шчырай, радаснай атмасферы. Адно з іх адбылося ў Бабруйскім раёне.**

**Унучка паэта Наталля Варанцова-Вельямінава пражыла на Беларусі ў вёсцы Вавулічы (цяпер Дубоўка) Бабруйскага раёна значную частку свайго жыцця. Тут быў маёнтак яе мужа Варанцова-Вельямінава. Жанчына пабудавала на свае сродкі царкву ў вёсцы Цялуша, дзе яе і пахавалі.**

# СВЯТА ПАЭЗІІ Ў ЦЯЛУШЫ





**НА ЗДЫМКАХ: выступаюць самадзейныя калектывы Бабруйскага раёна; на вуліцы вёскі Цялушы ў час пушкінскага свята паэзіі; народны майстар з Бабруйска Юрый БОЎДА дэманструе сваё рамяство; царква, пабудаваная на сродкі Наталлі Варанцовай-Вельямінавай.**



Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.

## КРЫЖАВАНКА «ЗАГАДКІ»

1. Зранку на чатырох нагах, удзень — на дзвюх, увечары — на трох. 2. Пакуль жывы — чорны, а памрэ — чырвоны. 3. Сам доўгі, мае чатыры нагі, ды не ходзіць. 4. Даўганосы, даўганогі, прыляцеў з дарогі, шыльца ўваткнуў ды кроў пацягнуў. 5. На вадзе родзіцца, а вады баіцца. 6. Як ляжыць, дык маўчыць, а возьмеш — закрычыць. 7. Складзеш — клін, разгорнеш — блін. 8. Невялікі, рыжаваты, хвост калматы, у лесе жыве, шышкі грызе. 9. Хвост на дварэ, нос — у нары, хто нос паверне, той у хату ўвойдзе. 10. Ніхто яе не страшыць, а яна ўвесь час дрыжыць. 11. Маленькі, чырвоненькі, а не падымеш. 12. Круглая гара, што ні крок — то нара. 13. На страсе валасамі трасе. 14. Нітак шмат, а ў клубок не зматаеш. 15. Ні свет ні зара пайшоў гнуты са двара. 16. Палез у ваду адзін, а вылез з сям'ёй. 17. Капа на капе, а зверху кій. 18. Верхам сядло, на каго — не знаю, знаёмага ўбачу — адразу саскочу. 19. Шуфлем есць, лапатай ходзіць. 20. Дзядок нізак, ды мае сто рызак. 21. Белы, ды не снег, салодкі, ды не мёд. 22. Яго ніколі не абмінеш, ці ў хату заходзіш, ці з хаты ідзеш. 23. Рагаты, ды не бык, ежу бярэ, а зусім не сыты, людзям падае, а сам у кут ідзе. 24. Без языка жыве, не есць, не п'е, а гаворыць ды пяе. 25. Дзень і ноч крычыць, а голас не стамляецца. 26. У зямлю кідаем, не шкадуем, на другі год разбагацеем. 27. На страсе сядзіць і люльку курыць. 28. Стракаты каромысел праз рэчку павіс. 29. Засяваю дол ігліцай, спрадвеку слаўлюся жывіцай. 30. Без рук, без алоўка, а малюе лоўка. 31. З высокай дарогі глядзіць бычок кругарогі. 32. З зямлі дасталі, у печку паклалі, імя далі і дом збудавалі. 33. Зверху гола, знізу калмата, цяплом багата. 34. Ігнат-хват пад зямлю пайшоў, чырвоную шапку знайшоў. 35. На страсе жораў сядзіць, у хаце скрынка стаіць, святло патушана, а ўвесь свет відаць. 36. Галаву ядуць, цела выкідваюць, а скуру носяць. 37. Выходзілі дванаццаць малайцоў, выносілі пяцьдзесят двух сокалаў, выпускалі трыста шэсцьдзесят пяць лебедзяў. 38. Хутка бяжыць — не дагоніш. 39. Косці на лугу, скура на таргу, а галава ў клеці. 40. Семсот муляроў збудавалі дом без вуглоў.

**Склала Ірына БЕКІШ.**

СПОРТ



На базе Беларускага паруснага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі прайшоў адкрыты кубак Беларусі па парусным спорту. Больш за пяцьдзесят удзельнікаў спаборнічалі ў шасці класах пaруснікаў.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

## ЛАЎРЭАТЫ МАЯ

**У вызначэнні лепшых спартсменаў краіны ў маі прынялі ўдзел 16 журналістаў.**

Адзінаццаць журналістаў першае месца аддалі прадстаўніцы мастацкай гімнастыкі Юліі Раскінай. Другое месца па выніках апытання заняў дзюдаіст Націк Багіраў, які на чэмпіянаце Еўропы ў Брацiславе атрымаў бронзавы медаль. Усяго адно ачко ўступіў яму варатар хакейнай зборнай Беларусі Андрэй Мезін. Таксама называліся імёны гандбалістаў Івана Броўкі і Віталя Фешчанкі, футбаліста Максіма Рамашчанкі, батуцістаў Яўгена Бяляева і Дзмітрыя Паляруша, баскетбаліста Аляксандра Куля і зборная краіны па сучаснаму пяцібор'ю.

На гэты раз незвычайна шырокім у журналісцкім апытанні аказаўся спіс прадстаўнікоў неалімпійскіх відаў спорту. І не дзіўна: беларускія спартсмены парадавалі ў мінулым месяцы ўдалымі выступленнямі. Па-за канкурэнцыяй у гэтай намінацыі аказалася Раіса Волкава. Яна на чэмпіянаце свету па спартыўнай тэлеграфіі заваявала 5 медалёў, з якіх 3 — залатыя. Другое месца зноў дасталася Вячаславу Харанеку, які за шэсць гадзін падняў 925 разоў бочку з півам і трапіў у Кнігу рэкордаў Гінэса. Тройчы называлася лепшай шахматыстка Генрыета Лагвілава, якая выйграла ў Мінску занальны турнір чэмпіянату свету. У ліку лепшых спартсменаў называліся чэмпіён Еўропы па самба Юрый Рыбак, рэкардсмен свету па гіраваму спорту Уладзімір Савельеў, кікбаксёрка Марына Бусыгіна і прадстаўнік тайскага бокса Дзмітрый Шакута.

**Аляксей РАМАНЧУК.**

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

**Надзі 5 год. Абураецца:**
**— Дарослыя, яны што хочуць, тое і робяць! Хочуць — ідуць на працу, а хочуць — у краму. Хочуць — мыюць, а хочуць — прасуюць. А тут адзін чалавек загуляўся, дык яго адразу абедаць клічуць.**

* * *

**Шасцігадоваму хлопчыку маці надзявае на шыю крыжык, побач стаіць бабуля і прыгаворвае: "Вось цяпер, Паўлік, хлусіць нельга, Бог усё бачыць..." Паўлік хвіліны тры пахадзіў па пакоі, потым падыходзіць да маці: "Мам, здымі ты яго, калі ласка, каб нікога не крыўдзіць".**

* * *

**Маленькая Любачка, упершыню заўважыўшы ў небе самалёт, які гучна шуміць, пытае бабулю:**
**— Чаму птушка зліцца?**

З калекцыі
**Канстанціна КАРНЕЛЮКА.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1107.
Падпісана да друку 14.06.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82